© PDF: Kamunikat.org 2025 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2025


# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 42 (660) ГОД XIII 20 КАСТРЫЧНІКА 1968 г. ЦАНА 60 гр.




Белавежскі пейзаж. Фота: **Янка Цялушэцкі**

## МІЖ З'ЕЗДАМІ

Крокі V з'езда чутны ў гушчары пушчы, што шуміць вакол Нараўкі. Крокі З'езда ўвайшлі аж у дзесятак нараўскіх вуліц. То праўда, што жывучы і працуючы з дня на дзень, не заўсёды звяртаем увагу на змены.

Ідзем ходнікам па нараўскай вуліцы. Цэлы кіламетр ходнікаў у апошнія гады лёг тут на вуліцах. Вось вуліца Крынічная. Назва ад крыніцы чыстай халоднай вады, якая тут б'е. Вада... Нараўка правярцелася глыбока ў зямлю, збудавала артызійскі калодзеж і людзі цяпер чакаюць ад павета дакументацыю на водаправод.

Хаты нараўскія. Пры галоўных вуліцах штораз паяўляюцца новыя будынкі. Гэта адрамантаваныя грамадскай радай старыя, пакінутыя хаты. Шэсць такіх будынкаў дагэтуль адрамантавана. Жыве тут 31 сям'я.

Грамадскія дарожныя чыны. Іх спатыкаем у нашай вандроўцы па нараўскай зямлі на кожным кроку. Чую прозвішча дарожнага майстра **Васіля Рубчэўскага** і словы: «Дзякуючы яму ёсць у нас усе дарогі». Самога Васіля Рубчэўскага нялёгка злавіць, ён у пастаянным паходзе па дарогах. Мо плануе сваю павуцінную сетку добрых дарог, якімі спалучыць Нараўку і яе вёскі з шырокім светам. Працуе на сваім пасту дарожнага майстра ад 1948 года. Вось дык вернасць дарогам!

Эх, вы, дарогі, куды бяжыце, куды вядзеце людзей з ціхай меланхалійнай Нараўкі! Адных кіруеце ў Гайнаўку, другіх у Скупава, а яшчэ іншых выпускаеце на вялікую навуку ў вялікія гарады. Вамі **Оля Зданоўская** пакідае родную хату, каб паехаць у Гданьск, дзе вялікімі здольнасцямі ловіць веды на другім ужо годзе Вышэйшай педагагічнай школы, а ў вальнейшую хвіліну сябрам на гармоніку іграе, як іграецца на вечарыне ў Нараўцы. Вось якраз вярнулася Оля ў Нараўку, зайшла ў мясцовы клуб. Разам п'ем чорную модную каву. Прысядае **Ірка Філіновіч** — сімпатычная і спраўная кіраўнічка клубу. Сяброўка Олі **Ліля Сакоўская** сама з Нараўкі, а вучыць у школе ў Скупаве. Дзяўчаты спаткаліся і хацелі мо па душах пагаварыць. А тут надышла я і хачу даведацца аб многім. Старшыня ГРН **Мікалай Раманчук** ганарыцца сваім клубам і сваімі харошымі дзяўчатамі, хваліцца, што многія вучацца, што многія ўжо магістрамі. Нараўскі клуб працуе ў рамах грамадскага цэнтра




культуры. Разумею ціхую і галосную радасць старшыні за гэтае іхняе дзіця, якому імя ГОК. Выпесціла яго Нараўка, вырасціла і мае поўнае права быць задаволенай.

Аб тым, што пры ГОК-у ў Нараўцы існуе бібліятэка, што ёсць тэлевізар, што працуе фатаграфічны і мадэлярскі гурток, даўжэй пісаць не буду. Усё гэта ёсць і ўжо голасна было аб нараўскім ГОК-у ў мінулым годзе, калі тут адбываўся пачатак новага культурнага ваяводскага года.

Ідзем далей. Сорак пяць пунктаў электрычнага асвятлення блішчыць на нараўскіх вуліцах — плён 67 года і з прыдзелаў Прэз. ПРН у Гайнаўцы. А вось перад намі стадыён пры школе. Яшчэ не зусім закончаны, але ўжо цешыць вочы зелень травы. Збудаваны грамадскім чынам у 50 працэнтах, другія 50 дадаў ваяводскі камітэт ЛьЗС. Вакол стадыёна тысячы руж пасадзілі рукі дзяцей, пад асабістым наглядам кіраўніка школы мгр **Казіміра Амільянчука** і выкладчыка СПР-у **Васіля Міхноўскага,** аднaчасова старшыні грамадскай арганізацыі ЗМВ.

СПР адзін з цікавейшых. Па-першае, мае паўінтэрнат, з якога карыстаюць вучні з Сямяціцкага, Бельскага і Беластоцкага паветаў. СПР змяшчаецца ў будынку спецыяльна адрамантаваным грамадскай радай і аддадзеным у карыстанне гэтай школе.

Разбяжымся зараз у бакі ад Нараўкі новымі жвіровымі дарогамі, якія пралеглі між з'ездамі: 4 кіламетры ад Забалоцця да Сушчага Барка, 2 кіламетры — у напрамку Белавежы праз Янова, 2 кіламетры— Альхоўка — Забрады.

У Міклашэве і Скупаве працуюць лепшыя маладзёжныя гурткі ЗМВ. У Міклашэве маладыя канцэнтруюць увагу на культурнай дзейнасці, маюць свой калектыў, арганізуюць свае вечарыны, збудавалі сваю пляцоўку на свежым паветры і там адбываюцца іхнія рэпетыцыі. У Скупаве людзі добра гавораць пра кіраўніка школы **Язэпа Навіцкага і яго жонку Марыю:** «Каб не яны, не ўяўляем, што было б у Скупаве». Пяць год Навіцкія сядзяць у Скупаве, і вакол школы і іх круціцца тут усялякая ініцыятыва, працуе вялікі гурток ЗМВ, паўстаў клуб. Людзі ў Скупаве грамадскім чынам выкапалі супрацьпажарны басейн. «Каб яго яшчэ зарыбіць», — думае ўголас сакратар ПОП пры грамадскай радзе і аднaчасова працаўнік гэтай рады **Ян Адамовіч,** родам са Скупава.

Над сталом старшыні ПГРН у яго кабінеце вісіць дыплом, падпісаны ваяводскімі ўладамі Таварыства папулярызацыі ведаў у Беластоку. Дыплом выхваляе нараўскую ГРН за дасягненні ў асвеце для дарослых. Якія ж гэта дасягненні? — пытаю.

Старшыня прастуецца і сур'ёзна пачынае: «У нас людзі горнуцца да навукі, асабліва моладзь. Мы апрацоўваем план сезона, які прадбачвае розныя формы навучання. У рамах народнага ўніверсітэта гаворым на тэмы палітыкі гаспадаркі, розных судовых

(Працяг на стар. 5)

## НАРАДА АКТЫВУ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ ТАВАРЫСТВАЎ

2-га кастрычніка Прэзідыум Ваяводскай рады нарадовай у Беластоку арганізаваў нараду актыву нацыянальных таварыстваў у нашым ваяводстве, прысвечаную абмяркоўцы актуальных грамадска-палітычных праблем, такіх як а) папулярызацыя тэзісаў ЦК ПАРП на V з'езд партыі, б) уключэнне нацыянальных таварыстваў у адзначэнне 25-ай гадавіны ўтварэння народнай улады ў Польшчы, уключэнне нацыянальных таварыстваў у выбарную кампанію да рад нарадовых і Сейму Польшчы ў 1969 годзе, а таксама адзначэння гадавін, якія прыпадаюць на апошнія месяцы гэтага года.

Нараду адкрыў і выступіў з уступным словам старшыня Прэзідыума ВРН Стэфан Жмійка. Яго прамову змяшчаем у сённяшнім нумары «Нівы». У нарадзе ўзялі ўдзел між іншым Ежы Русецкі — начальнік грамадскага аддзела Міністэрства ўнутраных спраў, Станіслаў Зялінскі — прадстаўнік ваяводскага камітэта ПАРП, Антоні Рошка — кіраўнік аддзела ўнутраных спраў ВРН, Здзіслаў Дамброўскі — старшыня нацыянальнай камісіі пры КВ ПАРП, Станіслаў Корбут — сакратар ваяводскага камітэта Фронту адзінства народа, Тадэуш Бакун — намеснік кіраўніка аддзела культуры ВРН і іншыя.

Першы выступіў палкоўнік Чэслаў Ляўковіч. Ён паінфармаваў прысутных аб ідэалагічнай дыверсіі заходніх цэнтраў у святле перадз'ездаўскіх тэзісаў.

Пасля старшыня ВРН даў слова кіраўніку пляцоўкі ВСВ да грамадскіх спраў Мікалаю Куцу, які шырока ахарактарызаваў дагэтуляшнюю дзейнасць нацыянальных таварыстваў на Беласточчыне. Ён таксама прапанаваў далейшыя напрамкі дзейнасці для нацыянальных таварыстваў, якія вынікаюць з тэзісаў ЦК ПАРП на V з'езд партыі і сфармуляваныя ў VI частцы гэтага дакумента. Гэтыя заданні ў асноўным зводзяцца да наступных пунктаў:

■ Выхоўваць сваё асяроддзе ў духу пралетарскага інтэрнацыяналізму і патрыятызму.

■ Паказваць дасягненні нашай краіны ва ўсіх галінах за 25-гадовы перыяд народнай улады.

■ Мабілізаваць дзейнасць сваіх асяроддзяў да яшчэ актыўнейшага ўдзелу ў сацыялістычным будаўніцтве.

■ Правесці аналіз выхаваўчых вартасцей рэпертуару для аматарскіх калектываў і пашыраць мастацкую самадзейнасць, выкарыстоўваючы багаты нацыянальны фальклор.

■ У сувязі з вышэй успомненымі гадавінамі нацыянальныя таварыствы павінны весці шырокую прапагандную дзейнасць у сваіх асяроддзях на аснове апрацаваных планаў партыйных устаноў, а ў сувязі з выбарнай кампаніяй у наступным годзе, шырока папулярызаваць кандыдатаў на паслоў у Сейм і кандыдатаў у рады нарадовыя.

Старшыня павятовага праўлення украінскага таварыства ў Голдапскім павеце на канкрэтных прыкладах паказаў грамадскае заангажаванне УГКТ у гаспадарча-палітычным жыцці павета. Сакратар Галоўнага праўлення літоўскага таварыства расказаў аб цікавых формах працы ЛГКТ, а сакратар ГП БГКТ Уладзімір Юзвюк звярнуў увагу на папулярызацыю тэзісаў ЦК ПАРП на канферэнцыях аддзелаў БГКТ.

Ежы Русецкі — начальнік грамадскага аддзела МСВ падкрэсліў неабходнасць цеснага супрацоўніцтва з партыйнымі ўстановамі. Неабходна таксама, гаварыў ён, — паказваць свайму асяроддзю дасягненні ў гаспадарчым і культурным жыцці нацыянальных меншасцей Народнай Польшчы. Вялікая ў гэтым роля прэсы нацыянальных меншасцей.

З беларускага таварыства выступалі ў дыскусіі Кастусь Масальскі — старшыня гарадскога аддзела ў Беластоку, Віктар Швед — інструктар ГП на Варшаўскі аддзел, Мікола Матэйчык — сакратар Гарадоцкага аддзела і Іван Мікуць — член праўлення Сакольскага аддзела. Падсумаваў дыскусію старшыня ВРН Стэфан Жмійка.

(МХ)

© PDF: Kamunikat.org 2025 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2025

© PDF: Kamunikat.org 2025

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2025

Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі

## СВЕТ

### АЛІМПІЯДА — МЕХІКА 68

У Мехіка пачалася чарговая XIX летняя спартыўная Алімпіяда. Сюды прыехала больш сямі тысяч спартсменаў са 108 краін.

Але на некалькі дзён перад адкрыццём алімпійскіх тульняў у Мехіка панавала атмасфера грамадзянскай вайны. Былі дзесяткі забітых, сотні параненых і арыштаваных. Урад Мексікі гаворыць аб арганізаванай правакацыі, накіраванай на памяншэнне аўтарытэту краіны, якая дзякуючы сваёй незалежнай палітыцы і прагрэсіўным формам цешыцца шырокім пашанаваннем.

### «ДЫЯЛАГ З НЯВЕРУЮЧЫМІ»

Такі загаловак мае апублікаваны ў Ватыкане дакумент. Ватыкан прызнаў, што сур'ёзная частка насельніцтва акцэптавала матэрыялістычны светапогляд і што гэтая з'ява трывалая. Ватыкан адракаецца ад некаторых метадаў барацьбы з атэізмам, такіх, як асуджэнне і астракізм, няма таксама мовы ў дакуменце аб праклёнах. Можна меркаваць, што Ватыкан прызнаецца, што не мае манаполіі на ўстанаўленне прынцыпаў як індывідуальнай, так і грамадскай маралі, а таксама, што не можна аддзяляць верных ад акружаючага іх свету.

### ЗАКОН АБ СЯМ'І Ў СССР

Ад 1 кастрычніка г.г. у СССР абавязвае новы закон аб сям'і і шлюбе. Новы кодэкс пабольшвае адказнасць бацькоў за выхаванне дзяцей, за іх матэрыяльны дабрабыт, акрэслівае спосабы матэрыяльнага забеспячэння на старасць, няздольных да працы мужа ці жонкі, анулюе непатрэбныя разводавыя фармальнасці, больш справядліва разглядае справу аліментаў.

### АБ ЗАБАРОНЕ ДЗЕЙНАСЦІ НПД

Палітыкі ФРГ і Заходняга Берліна пачынаюць бачыць, якія вялікія шкоды ў міжнароднай грамадскай думцы прыносіць ім дзейнасць НПД (Неафашысцкая партыя Германіі). Улады Заходняга Берліна выступілі да заходніх акупацыйных дзяржаў з прапановай аб забароне дзейнасці НПД у гэтым горадзе. Супраць НПД выказаўся між іншым канцлер Кізінгер. Бонскіх палітыкаў непакоіць абвастрэнне палітычнай сітуацыі ў часе, калі каля 50 дэпутатаў ад НПД засядае ў бундэстагу. Урадуючыя ў Бонне палітыкі не вельмі хочуць ісці на праўную акцыю супраць НПД, якая сцвярджае, што яе патрабаванні супадаюць з прапановамі Бона ў справе «Вялікай Германіі», антыкамунізму, пахвалы мінулага і т.п.

### САМАЛЁТЫ ІЗРАІЛЮ

Злучаныя Штаты Амерыкі прададуць Ізраілю 50 найнавейшых рэактыўных баявых самалётаў. А.К.

## БССР

### ІДЭАЛАГІЧНЫХ

Адбылася рэспубліканская нарада ідэалагічных работнікаў, прысвечаная падрыхтоўцы да 100-годдзя з дня нараджэння У. І. Леніна. Даклад меў Першы сакратар Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі П. Машэраў. У дыскусіі выступілі, між іншымі, сакратар Гродзенскага абкома КПБ А. Ульяновіч, сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў БССР П. Панчанка, галоўны рэдактар часопіса «Коммунист Белоруссии» Я. Качан, старшыня праўлення Саюза кампазітараў Рыгор Шырма, сакратар Бабруйскага райкома КПБ Е. Грыбоўская.

У нарадзе ўдзельнічалі партыйныя і дзяржаўныя кіраўнікі Беларусі: Ц. Кісялёў, У. Міцкевіч, С. Пілатовіч, С. Прытыцкі, Г. Жабіцкі.

### УСЕСАЮЗНАЯ

У Мінску адбылася Усесаюзная навукова-тэхнічная канферэнцыя, прысвечаная 20-ай гадавіне ад моманту, як у Саюзе ССР пачалася масавая вытворчасць і выкарыстанне радыёактыўных ізатопаў і ядзерных выпраменьванняў. У канферэнцыі ўдзельнічала больш тысячы савецкіх вучоных і інжынераў, прадстаўнічыя дэлегацыі фізікаў і работнікаў прамысловасці з сацыялістычных краін. У якасці назіральнікаў прысутнічалі прадстаўнікі Рады Эканамічнай Узаемадапамогі.

### ДЗЕНЬ

Дзень настаўніка на Беларусі адзначаецца 6 кастрычніка. Сёлета гэтае настаўніцкае свята адзначалася асабліва ўрачыста, у настроі вялікага свята беларускага народа — 50 год Беларускай Дзяржавы.

65 настаўнікаў горада Мінска ўзнагароджана ордэнамі і медалямі Саюза ССР, а настаўніца сярэдняй школы нумар 28 Арыядна Казей удастоена высокага звання Героя Сацыялістычнай Працы.

У мінскіх урачыстасцях прымаў удзел міністр асветы БССР М. Мінкевіч.

### 19-АЙ

У сувязі з 19-ай гадавінай з дня абвяшчэння Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі адбыўся ў беларускай сталіцы ўрачысты сход з удзелам партыйных і дзяржаўных кіраўнікоў Беларусі.

### «СТАРОНКІ»...

«Старонкі беларускай драматургіі» — гэта загаловак артыкула В. Бурносава, змешчанага ў цэнтральнай «Звяздзе» ў сувязі з выхадам у свет кніжкі А. Семяновіча **«Беларуская савецкая драматургія»**.

«...даследчык не абыходзіць, а імкнецца растлумачыць складаныя з'явы гісторыі беларускай нацыянальнай культуры», — піша Бурносаў, слушна называючы гэта лепшымі старонкамі кніжкі Семяновіча. (С.Я.)

## ПОЛЬШЧА

### КАНФЕРЭНЦЫЯ

З удзелам І сакратара Цэнтральнага Камітэта партыі тав. Уладзіслава Гамулкі 7 і 8 кастрычніка адбылася ў Катавіцах першая ў краіне перадз'ездаўская ваяводская канферэнцыя ПАРП. З дакладам выступіў І сакратар Ваяводскага камітэта партыі ў Катавіцах тав. Эдвард Герэк. У час дыскусіі з прамоваю выступіў таксама І сакратар ЦК партыі тав. Уладзіслаў Гамулка.

### ДАКЛАД Э. ГЕРКА

У дакладзе сваім тав. Э. Герэк падрабязна прааналізаваў дасягненні найбольш гаспадарча развітага ў краіне раёну — Катавіцкага ваяводства. Асабліва многа ўвагі прысвяціў ён удасканаленню метадаў планавання і кіравання гаспадаркай. Прамоўца ўказаў на некаторыя існуючыя ў гэтай галіне недахопы, між іншым, у выкарыстанні інжынерна-тэхнічных кадраў. Рэканструкцыя прамысловасці з'яўляецца першапланавым заданнем, — сцвердзіў тав. Э. Герэк. Звязана аднак гэта з шэрагам праблем, між іншым, са зменай складу і ролі прамысловай адміністрацыі. «Непатрэбны нам, — сцвердзіў прамоўца, — вялікія грамады нізкакваліфікаваных адміністрацыйна-бюровых працаўнікоў, але колькасна невялікія, затое высокакваліфікаваныя адміністрацыйныя кадры».

### ПРАМОВА УЛ. ГАМУЛКІ

Выступаючы на ваяводскай перадз'ездаўскай канферэнцыі ў Катавіцах, І сакратар ЦК партыі У. Гамулка падкрэсліў значэнне ўласцівай рэалізацыі прынцыпу дэмакратычнага цэнтралізму ў партыйным жыцці. Дэмакратыя без цэнтралізму, — заявіў прамоўца, — замяніла б партыю ў дыскусійны клуб, пазбавіла б яе кіраўнічай ролі ў будове сацыялізма. З другога боку, цэнтралізм без дэмакратыі давёў бы да выраджэння партыі, да адарвання камуністычнага авангарду ад рабочага класа і шырокіх працоўных мас.

У далейшай частцы свайго выступлення тав. У. Гамулка сканцэнтраваўся на некаторых праблемах нашага гаспадарчага развіцця, асабліва на праблемах развіцця машынабудаўніцтва. Прыводзячы высокія паказальнікі ўзросту прадукцыі нашай прамысловасці ў гэтым годзе, Уладзіслаў Гамулка ўказаў на некаторыя няправільнасці ў гэтым развіцці, вынікаўшыя з таго, што ўзрост прадукцыі адбываецца перад усім за кошт узросту колькасці рабочых, а не за кошт узросту прадукцыйнасці працы. Шмат увагі І сакратар ЦК партыі прысвяціў таксама ідэйна-выхаваўчай дзейнасці партыі, сцвярджаючы, што недахопы ў гэтай галіне належаць да галоўных недахопаў працы партыі паміж IV і V з'ездамі. (п)

## ВАЯВОДСТВА

### ЮБІЛЕЙ АРМІІ

На Беласточчыне, як і па ўсёй краіне, урачыста адзначалі 25-тую гадавіну Войска Польскага. 11 кастрычніка з нагоды юбілею нашай арміі ў беластоцкім тэатры адбылося ўрачыстае пасяджэнне, у якім прынялі ўдзел: І сакратар Ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку — А. Лашэвіч і старшыня Прэзідыум ВРН у Беластоку С. Жмійка, а таксама кіраўнікі ваяводскіх устаноў іншых партый і грамадскіх арганізацый. У пасяджэнні прымала ўдзел дэлегацыя Савецкай Арміі з генерал-маёрам Аляксандрам Міхеевым. З прамовай выступіў сакратар ВК А. Лашэвіч.

«Крыніц высакародных якасцей польскага салдата, — адзначыў ён між іншым, — трэба шукаць у глыбокім патрыятызме польскага народа, у яго нацыянальнай годнасці.»

Асабліва сардэчна прывіталі прысутныя выступленне генерал-маёра Аляксандра Міхеева. Ад імя працоўных і салдат савецкай Гродзеншчыны перадаў ён польскім салдатам і ўсяму польскаму народу самыя лепшыя пажаданні поспехаў у мірным будаўніцтве сацыялістычнай айчыны. З нагоды 25-годдзя Войска Польскага генерал-маёр Аляксандр Міхееў перадаў таксама прадстаўнікам Ваяводскага вайсковага штаба каштоўны падарунак ад салдат Гродзенскай вобласці.

### ГАРЦЭРСКІ З'ЕЗД

Як вядома, у Варшаве адбыўся IV з'езд прадстаўнікоў Саюза польскага гарцэрства. Прыняла ўдзел у ім таксама дэлегацыя Беластоцкага ваяводства. Перад ад'ездам на з'езд дэлегацыю беластоцкіх гарцэраў прыняў сакратар прапаганды Ваяводскага камітэта партыі ў Беластоку Вітальд Мікульскі, які адначасова з'яўляецца старшынёю рады сяброў гарцэраў. У час гэтай сустрэчы камендант Беластоцкай гарцэрскай харугвіі Т. Дзюбінскі заявіў, што гарцэрскі чын у гонар V з'езда ПАРП ацэньваюць на суму ў паўтара мільёна злотых.

### АБ ГІТЛЕРАЎСКІХ ЗЛАЧЫНЦАХ

У Беластоку адбылося пленарнае пасяджэнне Ваяводскай камісіі па даследванню гітлераўскіх злачынстваў. Члены Камісіі ацанілі яе дзейнасць і абмеркавалі план працы на 1969 год. Зараз Ваяводская камісія разглядае некалькі дзесяткаў спраў адносна людзей, якія ў час акупацыі рабілі розныя злачынствы на тэрыторыі Беластоцкага ваяводства. Да далейшых некалькіх сот спраў Камісія збірае матэрыял і заклікае да супрацоўніцтва ўсіх грамадзян Беласточчыны, каб інфармавалі Камісію аб усялякіх злачынствах з часоў акупацыі. ВР.

## TELEWIZJA WARSZAWA

**NIEDZIELA, 20 październik**

5.55 XIX Igrzyska Olimpijskie w Meksyku. 8.05 TV Kurs Rolniczy: ,,Ekonomiczna efektywność dawki żywieniowej''. 9.40 ,,Przypominamy, radzimy''. 9.50 PKF. 10.05 ,,Ostatnia szansa'' — film TVP (,,Stawka większa niż życie''). 10.50 Wiadomości dziennika. 11.00 ,,PROM'' — poranek muzyki symfonicznej. 11.45 Reportaż sportowy (Szczecin). 12.00 Sprawozdanie sportowe. W przerwie — Losowanie Totolotka. 13.45 ,,Przemiany''. 14.15 ,,Jak uczono muzyki w dawnym Krakowie''. 14.45 ,,Ukochany kraj, umiłowany kraj''. 15.35 Teatr Komedii Współczesnej. J. Janicki: ,,Mężowi biada''. 16.45 XIX Igrzyska Olimpijskie w Meksyku — kronika olimpijska. 18.15 ,,Klub 6 kontynentów''. 18.55 ,,Polacy na frontach II wojny światowej'' — film. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik TV i informator olimpijski. 20.15 ,,Proszę dzwonić''. 21.15 XIX Igrzyska Olimpijskie w Meksyku. 21.40 ,,Proszę dzwonić'' — ciąg dalszy. 21.55 XIX Igrzyska Olimpijskie w Meksyku.

**PONIEDZIAŁEK, 21 październik**

5.55 XIX Igrzyska Olimpijskie w Meksyku — kronika olimpijska. 8.15 Przerwa. 15.15 ,,Śpiewa Klaudia Radczenko'' (Kijów). 15.45 Politechnika TV kurs przygotowawczy. Fizyka: ,,Wnioski z prawa powszechnego ciążenia''. 16.15 Politechnika TV, kurs przygotowawczy. Fizyka: ,,Wahadło matematyczne''. 16.45 Wiadomości dziennika. 17.00 XIX Igrzyska Olimpijskie z Meksyku. II wydanie kroniki olimpijskiej. 18.00 Dla młodych widzów: ,,Zrób to sam''. 18.15 ,,Kino Krótkich Filmów''. 18.45 ,,Jutro GOP-u'' — program Redakcji Ekonomicznej. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik TV i informator olimpijski. 20.10 Teatr TV: ,,Powrót do Itaki'' wg ,,Odyssei'' Homera. 21.10 ,,Dzień sekretarza'' — rep. filmowy. 21.35 Dziennik TV. 22.00 XIX Igrzyska Olimpijskie w Meksyku.

**WTOREK, 22 październik**

5.55 XIX Igrzyska Olimpijskie w Meksyku. 8.30 ,,Sala szpitalna'' — film fab. radz. 10.00 Dla szkół (kl. IV) ,,Od Bałtyku do Tatr''. 10.55 Dla szkół (kl. XI i II lic.) Język polski: K. Treniew — ,,Lubow Jarowaja'' (,,Dzieje dramatu''). 12.30 ,,Przysposobienie Rolnicze'' — ,,Zapobieganie chorobom zwierząt''. 15.05 ,,Przysposobienie Rolnicze'': ,,Zapobieganie chorobom zwierząt''. 15.40 Politechnika TV I roku. Matematyka: ,,Płaszczyzna i prosta w przestrzeni''. 16.15 Politechnika TV I roku. ,,Płaszczyzna i prosta w przestrzeni'' cz. II. 16.45 Wiadomości dziennika. 17.00 XIX Igrzyska Olimpijskie w Meksyku. 18.00 Dla dzieci: ,,Dzień Piegowatych w Zgorzelcu'' — rep. filmowy. 18.20 TV Kurier Warszawski. 18.35 ,,Po szóstej'' — TV Klub Młodzieżowy. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik TV i informator olimpijski. 20.10 ,,Giełda Piosenki''. 20.40 ,,Azymut'' — TV Magazyn Wojskowy. 21.10 Dziennik TV. 21.35 XIX Igrzyska Olimpijskie w Meksyku.

**SRODA, 23 październik**

5.55 XIX Igrzyska Olimpijskie w Meksyku. 10.10 ,,Dom na rozstajach'' — film fab. radz. 11.55 Dla szkół (kl. VI) Fizyka: ,,O sile i jej mierzeniu''. 15.05 ,,Matematyka w szkole'' — ,,Elementy topologii w geometrii''. 15.35 Politechnika TV, kurs przygotowawczy. Matematyka: ,,Równania kwadratowe'' cz. I. 16.05 Politechnika TV, kurs przygotowawczy. Matematyka: ,,Równania kwadratowe'' cz. II. 16.35 Wiadomości dziennika 17.00 XIX Igrzyska Olimpijskie w Meksyku. 18.00 Dla dzieci: ,,Zwierzyniec''. 18.25 ,,Telekram''. 18.35 ,,Bielskie konfrontacje'' — program Redakcji Ekonomicznej. 19.00 ,,Ośrodek TV w Krakowie'' — rep. filmowy. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik TV i informator olimpijski. 20.05 ,,Pasażer do Ankary'' — nowela film. fr. 20.30 ,,Światowid'' — magazyn wydarzeń międzynarodowych. 21.00 Dziennik TV. 21.20 XIX Igrzyska Olimpijskie w Meksyku.

**CZWARTEK, 24 październik**

5.55 XIX Igrzyska Olimpijskie w Meksyku, kronika olimpijska. 9.55 Dla szkół (kl. V i VI) Język polski: ,,Nasz dzień powszedni''. 10.25 ,,Hwatar'' — film TVP. 11.55 Dla szkół (kl. V) Historia: ,,Złoty wiek Aten''. 12.45 Dla szkół (kl. I lic. i XI) Język polski: ,,Ludowość w poezji''. 15.40 Politechnika TV I roku. Geometria wykreślna: ,,Elementy równoległe''. 16.15 Politechnika TV I roku. Chemia: ,,Reakcje zewnątrzdrobinowe''. 16.45 Wiadomości dziennika. 17.00 XIX Igrzyska Olimpijskie w Meksyku. 18.00 Dla młodych widzów: ,,Ekran z bratkiem''. 18.30 ,,W prowincji Nghe-An'' — film Tele-Aru (,,Z kamerą po świecie''). 18.45 Program publicystyczny. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik TV. 20.10 ,,Trybuna Telewizyjna''. 20.40 ,,Ściśle tajne'' — film TVP (,,Stawka większa niż życie''). 21.35 Dziennik TV. 22.00 XIX Igrzyska Olimpijskie w Meksyku..

**PIĄTEK, 25 październik**

5.55 XIX Igrzyska Olimpijskie w Meksyku. 10.00 ,,Ściśle tajne'' — film TVP (,,Stawka większa niż życie''). 15.10 Przysposobienie Obronne dla klas I lic. — XXV-lecie Ludowego Wojska Polskiego. 15.40 Politechnika TV I roku. Matematyka: ,,Równanie linii, okrąg''. 16.15 Politechnika TV I roku. Matematyka: ,,Elipsa i hiperbola''. 16.45 Wiadomości dziennika. 17.00 XIX Igrzyska Olimpijskie w Meksyku. II wydanie kroniki olimpijskiej. 18.00 Dla dzieci: ,,Miś z okienka''. 18.15 TV Kurier Mazowiecki. 18.30 ,,Dialogi historyczne''. 19.00 ,,Definicje'' — cykliczny teleturniej rozrywkowy. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik TV i informator olimpijski. 20.10 Koncert symfoniczny w wyk. Orkiestry Państwowej Filharmonii Szczecińskiej pod dyr. J. Wiłkomirskiego. 20.50 ,,Czwarta zmiana''. 21.20 Teatr TV: J. Conrad-Korzeniowski — ,,Murzyn z załogi Narcyza''. 22.20 Dziennik TV. 22.45 XIX Igrzyska Olimpijskie w Meksyku.

**SOBOTA, 26 październik**

5.55 XIX Igrzyska Olimpijskie w Meksyku. Kronika olimpijska. 10.00 ,,Jedyna szansa'' — film NRD (Poznań). 12.45 Dla szkół (kl. VIII) Geografia: ,,Afryka''. 14.00 TV Kurs Rolniczy: ,,Mięsne rasy bydła''. 14.35 Program Tygodnia. 15.00 Dla młodych widzów: ,,Konkurs pięciu milionów''. 16.00 Wiadomości dziennika. 16.10 ,,W kraju Inków'' — film dok. radz. 17.00 XIX Igrzyska Olimpijskie w Meksyku. 18.00 ,,Gawędy wilków morskich''. 18.15 ,,Świat, który nie może zginąć'' — film. 18.45 ,,Almanach'' — pod red. J. Fuksiewicza. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.00 Informator olimpijski. 20.15 ,,Zawsze niech będzie słońce'' — koncert Laureatów Zielonogorskiego Festiwalu Piosenki cz. I. Transmisja z Sali Kongresowej PKiN w Warszawie. 21.25 Dziennik TV. 22.00 XIX Igrzyska Olimpijskie w Meksyku. III wydanie kroniki olimpijskiej.,

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

W tym numerze program wg czasu moskiewskiego.

**PIĄTEK, 18 październik**

9.30 Komedia K. Krapiwy ,,Kto się śmieje ostatni''. 10.05 Dziennik. 10.15 ,,Dzieciom o zwierzętach''. 10.30 Na polach kraju. 11.00 Olimpiada. 12.00 ,,Tobie młodości!'' 12.30 ,,My tak żyjemy''. 16.40 Nowiny. 17.00 Mistrzowie sztuki. 18.20 Na spotkanie 50-lecia BSRR. 19.00 ,,5+2''. 19.30 Koncert. 22.30 Rozmowa z dziennikarzami ,,Izwiestii''. 23.15 Olimpiada.

**SOBOTA, 19 październik**

8.30 ,,Maszyny'' — aud. dla studentów. 9.00 Gimnastyka. 9.45 Dziennik. 10.00 Jubileusz. 10.30 ,,Radząc się Lenina''. 11.00 ,,Postęp''. 11.30 Spotkanie z mistrzami teatru. 12.30 ,,Zdrowie''. 13.00 Telewizyjny atlas narodów ZSRR. 14.00 Szkatułka muzyczna. 14.45 Olimpiada. 15.00 ,,Krazinek'' — film dla dzieci. 15.30 Na spotkanie 50-lecia BSRR. 16.00 ,,Jestem żołnierzem'' — film. 17.25 ,,Telewizyjny klub robotnika''. 18.00 ,,Młodość''. 19.00 Olimpiada. 20.00 ,,Czasy''. 20.30 ,,Przy płomyku''. 21.45 Olimpiada.

**NIEDZIELA, 20 październik**

8.30 ,,Mechanika teoretyczna'' — audycja dla studentów. 9.00 Gimnastyka. 9.15 Dziennik. 9.30 ,,Budzik''. 10.00 ,,Ulica w pokoju'' — aud. dla dzieci. 10.30 Telewizyjny klub szachistów. 11.00 ,,Drogi nauki'' — program dla młodzieży. 12.00 Aud. dla wojska. 12.30 Na spotkanie 50-lecia BSRR. 12.50 ,,Wasze listy'' — koncert. 15.00 ,,Kiosk muzyczny''. 15.30 ,,Kalendarz telewizyjny''. 16.00 ,,Dziewczynka szuka ojca'' — film. 18.00 Olimpiada. 21.00 ,,Siedem dni'' — program międzynarodowy. 21.30 ,,Najdłuższa noc'' — film. 23.00 — Olimpiada.



© PDF: Kamunikat.org 2025

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2025

© PDF: Kamunikat.org 2025 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2025

# Перадз'ездаўская дыскусія

Ва ўсёй краіне шырока разгарнулася дыскусія над тэзісамі ЦК ПАРП на V з'езд партыі. На Гайнаўшчыне, напрыклад, заангажавана да папулярызацыі гэтага дакумента некалькі сот актывістаў. У абмяркоўцы тэзісаў забірала ўжо голас больш 1500 членаў партыі.

У перадз'ездаўскай дыскусіі ў настаўніцкім асяроддзі, нягледзячы на сваю партыйную прыналежнасць, узялі ўдзел усе настаўнікі. Тэзісы выклікаюць вялікае зацікаўленне не толькі сярод членаў ПАРП, але сярод членаў СД, ЗСЛь і беспартыйных. Каля 100 прапаноў унесена ўжо на партыйных сходах Гайнаўшчыны. Члены партыі з Махнатага прапануюць, каб у людзей, якім партыя давярае высокія і адказныя пасады, былі заўсёды добра праверанымі здольнасці, чуллівасць на зло, каб яны былі аддадзенымі ідэям нашай партыі.

На партыйным сходзе ў Нарве прысутныя прапанавалі ўвядзенне бясплатнага лячэння для сялян.

Партыйная арганізацыя, выбіраючы дэлегатаў на павятовыя канферэнцыі, забавязвала сваіх пасланцаў да прадяўлення тых спраў, якія хвалююць данае асяроддзе.

Напр., Мікалай Астапкевіч з Вялікіх Тыневіч на павятовай перадз'ездаўскай канферэнцыі ў Гайнаўцы 28 верасня гаварыў аб неабходнасці большай дысцыпліны ў партыйных арганізацыях, аб тым, што некаторыя члены партыі лёгкадумна, несур'ёзна адносяцца да партыйных заданняў і паверанья ім абавязкі выконваюць дрэнна. Звяртаў ён увагу на слабы кантроль сельскагаспадарчай службы над дзейнасцю праўленняў сельгасгурткоў.

Рэгіна Пашко на павятовай канферэнцыі гаварыла аб праблемах жанчын Гайнаўкі. Галоўнай праблемай з'яўляецца недахоп месц працы для жанчын, таму неабходна прыспешыць будову прадпрыемства стружкавых пліт, у якім магло б працаваць шмат жанчын.

Зместам другога выступлення Рэгіны Пашко было паляпшэнне выхаваўчай працы з моладдзю. «Моладзь наша, — гаварыла яна, — выхоўваецца ў дабрабыце, не памятае цяжкіх часоў панскай Польшчы і страшных часоў акупацыі. Вось таму неабходна і бацькам і выхавацелям у школе гаварыць аб мінулым, бо толькі тады можам належна ацаніць сённяшняе».

Аднавяскоўцы з Доўгага Броду забавязалі свайго дэлегата на павятовую канферэнцыю Дзмітра Мікуліча выступіць з трыма прапановамі: 1) каб мінеральныя ўгнаенні дастаўляліся на вёску ў спецыяльных мяшках. А гэта таму, што, калі гаспадар загрузіць і разгрузіць тону мінеральных угнаенняў, якія знаходзяцца на складах, дык можа адхварэць. 2) Вёска Доўгі Брод распаложана каля пушчы. Лясная звярына знішчае пасевы. І толькі тады ПЗУ выплачвае страты, калі пасевы знішчаныя не менш як у 10%. У сувязі з гэтым неабходна змяніць прынцыпы выплачвання страт. 3) Арганізаваць паляўнічыя гурткі ва ўсіх пушчанскіх вёсках.

А прапановы Міхася Зубрыцкага з Нараўкі датычылі праблемы лепшай падрыхтоўкі людзей да працы ў ГРН-ах і ГС-ах.

На ўсе прапановы, правільныя яны ці не, магчымыя да рэалізавання ці немагчымыя, члены партыі і партыйнай арганізацыі атрымаюць адказы. Вось між іншым і таму на кожным сходзе партыйнай арганізацыі ці на якой-небудзь нарадзе ўсе прапановы дакладна запісваюцца. (мх)




# З карысцю для грамадства

**ВЫСТУПЛЕННЕ СТАРШЫНІ ВРН СТЭФАНА ЖМІЙКІ НА НАРАДЗЕ АК ТЫВУ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ ТАВАРЫСТВАЎ**

Паважаныя таварышы, грамадзяне!

Перажываем цяпер перыяд, які характарызуецца чарговым узростам палітычнага напружання ў свеце. Факты, паявлічваючыя напружанне, якое ўтрымоўваецца ў выніку перманентных атак міжнароднай рэакцыі на сілы прагрэсу і сацыялізма, і якія асабліва заваастраюць міжнароднае становішча, — усім вядомыя.

Гэта па-першае: эскалацыя бруднай вайны ў В'етнаме і зверскія ўзброеныя правакацыі Ізраіля на Блізкім Усходзе;

па-другое: хуткі працэс фашызацыі, а таксама паглыбляючыйся рэвізіянізм і рэваншызм у Федэратыўнай Рэспубліцы Германіі;

і, нарэшце, па-трэцяе, усё больш розпабаковыя па форме і метадах ідэалагічныя дыверсіі міжнароднага імперыялізму, накіраваныя супроць садружнасці сацыялістычных дзяржаў. Мэты і метады гэтых дыверсій мы ўжо добра пазналі на балючым прыкладзе братняй Чэхаславакіі.

Адначасова ў нашай міралюбівай краіне, сярод нашага грамадства, захопленага творчым намаганнем будовы лепшага сацыялістычнага заўтра, разгортваецца ажыўленая дыскусія перад V з'ездам Польскай аб'яднанай рабочай партыі.

Гэтая дыскусія, як ведаем, праходзіць не толькі ва ўлонні палітычных арганізацый, але ахапляе таксама ўсе грамадскія арганізацыі, аб'яднаныя Фронтам адзінства народа, і шырокія кругі беспартыйных грамадзян, якім не абыякава будучыня нашай Народнай Айчыны.

Гэты шырокі і свабодны абмен поглядамі і прапановамі ў найбольш важных справах, сабраных у тэзісах на V з'езд ПАРП — кіруючай сілы нашага народа, з'яўляецца пераканаўчым выразам сапраўднай дэмакратыі нашага палітычнага жыцця і асаблівым доказам уздзеяння людзей працы на шляхі і метады далейшага развіцця сацыялістычнага будаўніцтва ў нашай краіне.

Нам здаецца, што ў гэтую ўсеагульную дыскусію не могуць не ўнесці свой уклад палітычнай, ідэалагічнай і гаспадарчай думкі члены нацыянальных таварыстваў, якія існуюць на тэрыторыі Беласточчыны.

А калі так, дык дазвольце звярнуцца ад імя Прэзідыума ВРН да праўленняў гэтых таварыстваў з прапановай арганізаваць павятовыя нарады са сваім актывам, прысвечаныя гэтай мэце.

Зместам такіх нарад магла б быць, напрыклад, ацэнка дагэтуляшняй працы пасобных арганізацый і апрацоўка новых яе форм, выяўленне новых магчымасцей і патрэб грамадскага дзеяння адпаведных нацыянальных асяроддзяў.

У святле з'ездаўскіх тэзісаў развіваецца дыскусія не толькі на тэмы праграмы дзейнасці ў агульнакраёвым маштабе, але і лакальнай, да найніжэйшых арганізацыйных і адміністрацыйных адзінак уключна.

Іменна таму справа актывізацыі грамадскага рэгіянальнага руху набірае дадатковага значэння. Нацыянальныя тазарыствы маюць шмат вопыту ў развіцці, заахвочванні і супрацоўніцтве з гэтым рухам.

Цяпер ёсць магчымасць задумацца над дагэтуляшнімі вынікамі гэтага супрацоўніцтва і накрэсліць далейшыя заданні ў развіцці гэтага шырокага руху з карысцю для вёсак, грамад і мястэчак.

Перадз'ездаўская дыскусія канцэнтруецца таксама вакол загранічнай палітыкі нашай Дзяржавы, указваючы на месца і ролю нашай краіны ў актуальнай сітуацыі на свеце ва ўмовах актывізацыі найбольш агрэсіўных імперыялістычных кругоў, асабліва ў Злучаных Штатах і Федэратыўнай Рэспубліцы Германіі.

Нацыянальныя таварыствы ад пачатку сваёй дзейнасці вядуць важную прапагандную дзейнасць і выясняюць небяспечныя для сусветнага міру мэты рэвізіяністычнай палітыкі ФРГ.

У кантэксце гэтых праблем асаблівa варта шырока папулярызаваць дадатнюю ролю і значэнне Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі, з якой нашую краіну яднае блізкае і ўсё больш цеснае супрацоўніцтва.

Падзеі апошняга перыяду паказваюць, што імперыялізм, не шкадуючы велізарных фінансавых сродкаў, прымяняе тактыку выкрывшання шляхам гэтак званага «змякчэння» пасобных звенняў нашага лагеру, імкнецца разбіць адзінства сацыялістычных краін і аслабіць узброеныя сілы дзяржаў Варшаўскага дагавору, да змены раўнавагі сіл у Еўропе на сваю карысць.

Іменна таму добра было б, каб нацыянальныя таварыствы ў час перадз'ездаўскай дыскусіі акрэслілі магчымасці пашырэння лектарскай і прапагандный дзейнасці ў галіне раз'яснення міжнароднай праблематыкі ў гэтым аспекце ў найшырэйшых колах сваіх асяроддзяў.

Тэзісы падкрэсліваюць вялікую вагу выхаваўчай працы сярод моладзі. «Трэба выпрацоўваць сярод моладзі свядомасць вялікіх перамен, якія зроблены ў нашай краіне, і зразуменне небяспекі, якая пагражае Польшчы і міру з боку імперыялістычных сіл заходнегерманскага рэвізіянізму».

У гэтай дзейнасці сярод моладзі адпаведную ролю павінны спойніць так-

(Працяг на стар. 4)

## ◆ Паштоўка з Беларускай ССР ◆



У музеі Кастуся Каліноўскага ў Свіслачы.

# Бібліятэкі Бельшчыны

Буйна развіваецца чытальніцтва ў Бельскім павеце. Асабліва гэта можна прасачыць на прыкладзе апошніх чатырох год. У 1964 годзе бібліятэкі павета мелі ўсяго **110.820** кніжак, а ў 1967 г. — **122.984** кніжак. Яшчэ больш адлюстроўвае развіццё чытальніцтва тое, калі падамо, што лік пазычанняў у 1967 годзе асягнуў **279.757**, калі ў 1964 годзе меласЯ толькі **245.685**. За чатыры гады (1964—67) лік чытачоў узрос на больш чым **3.500**.

Асабліва цікавым і пазітыўным з'яўляецца факт, што вельмі хутка ўзрастае чытальніцтва **літаратуры грамадска-палітычнай.** Калі ў 1964 годзе лік пазычанняў асягнуў **6.732**, дык у 1967 г. было ўжо **10.480**.

Такія дасягненні былі магчымы дзякуючы вельмі добра арганізаванай сетцы бібліятэк, якіх маецца 26, філіялаў бібліятэчных — 4 і бібліятэчных пунктаў — 152. Трэба падкрэсліць, што ў развіцці чытальніцтва на Бельшчыне асаблівую ролю адыграў Павятовы камітэт ПАРП, які не толькі кіраваў агульнай палітычнай працы бібліятэк, але пры кожнай аказіі забавязваў да дапамогі бібліятэкам грамадскія камітэты і партыйныя арганізацыі ў павеце. На выніку, як бачым, не трэба было доўга чакаць. (ак)

# Перспектывы Вярхлеса

Заязджаем у Вярхлес і захапляемся вялікім і прыгожым домам культуры, у якім ёсць і кіно і кавярня, і бібліятэка, і танцавальная зала. Падыходзім далей і бачым вясковую лазню, пральню, гандлёвыя павільёны. Прыемна ідзецца нам па шырокай вуліцы гарадскімі ходнікамі. У канцы вёскі бачым аграмадны школьны будынак, а за ім прадшколле. З другога боку — вясковы пункт аховы здароўя і агранамоўка. Вось які прыгожы Вярхлес!

Але гэта яшчэ не сённяшні Вярхлес. Гэтыя ўсе будынкі ўжо запланаваныя да будавання. Гэтак будзе выглядаць Вярхлес прыкладна за 10—15 год. (мх)

## фальклор

# А ў городі

**А ў городі, а ў городі**
**Развіваецце зеле,**
**А ў дівчыны, а ў дівчыны**
**Начынаецце вэселе.**

**Выйшла дівчына, за воротэнька**
**Россыпала карты.**
**Ужэ мінаютсе, ужэ мінулісе**
**Усе діво́цькіе жарты.**

**Вышла дівчына, за воротэнька**
**Россыпала дрова.**
**Ужэ мінается, ужэ мінулася**
**Уся дівоцька розмова.**

**Выйшоў да іе батэнько іе:**
**— Чого, дітя, плачэш?**
**Я тобе даю, што ў скрыні маю,**
**Долі нэ ўгадаю.**

**Прышла до іе матуля іе:**
**— Чого, дітя, плачэш?**
**Я тобі даю, што ў скрыні маю,**
**Долі нэ ўгадаю.**

**А ў городі, а ў городі**
**Усыхае зеле.**
**Ужэ кунчаецце, ужэ кунчылосе**
**У дівчыны вэселе.**

Прыслала **Вераніка Леанюк**
вёска Плёскі, Бельскі павет.



© PDF: Kamunikat.org 2025 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2025

© PDF: Kamunikat.org 2025
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2025

## МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

### МУРАШКАМ — НАШ КЛОПАТ

У зонах суцэльнай высечкі лесу гінуць тысячы мурашыных сем'яў. А між тым такія мурашнікі можна і трэба перавозіць у маладыя лясы.

Лесаводы Латвіі такое перасяленне практыкуюць ужо. Кіруе гэтымі работамі Арнольд Кауціс. Па яго ініцыятыве ў Латвіі ўпершыню праведзен перапіс мурашак, які паказаў, што гэтыя клапатлівыя насякомыя ўзялі пад сваю ахову больш як чатыры тысячы гектараў лясоў рэспублікі. Клопаты аб мурашках, такім чынам, акупляюцца ў сто разоў.

### ЧЫСТЫ — ХУТЧЭЙ

Калі сказаць, што чысты самалёт ляціць хутчэй, то гэта можа здацца жартам. Аднак даследванні, праведзеныя авіякампаніяй «Эр Франс», паказалі, што тонкі слой бруду на крыллях і фюзеляжы прыкметна пагаршае абцякальнасць і павялічвае выдаткаванне гаручага. Падумаеце — дробязь? Зусім не. Бруд «з'ядае» на шляху, скажам, ад Парыжа да Нью-Йорка цэлыя паўтары тоны зусім не таннага авіяцыйнага паліва. Вось чаму «Эр Франс» неадкладна пабудавала спецыяльныя прыстасаванні, дзе самалёты старанна ачышчаюцца ад бруду.

## ДЛЯ ГАСПАДЫНЬ

### ГРЫБЫ, ЗАПЕЧАНЫЯ Ў СМЯТАНЕ

500 грамаў свежых грыбоў ачысціце (скуру зняць толькі з карэньчыкаў), абмыйце, нарэжце роўнымі кавалачкамі, прысаліце і абсмажце з дзвюма цыбулінамі ў трох сталовых лыжках масла. Калі падсмажацца, заліце 3—4 сталовымі лыжкамі смятаны, пасыпце зверху цёртым сырам і пастаўце на некалькі мінут у гарачую духоўку, каб пакрыліся румянай скарынкай. Пры падачы пасыпце зяленівам кропу або пятрушкі.

### ГРЫБНЫЯ КАТЛЕТЫ

400 грамаў грыбоў свежых прамыйце, ачысціце, нарэжце і тушыце пад накрыўкай з пакрышанымі 2 цыбулінамі сярэдняй велічыні ў дзвюх сталовых лыжках масла. Уліце 2—3 сталовыя лыжкі вады. Затым трэба выпарыць вадкасць. Палавіну чэрствай звычайнай булкі намачыце ў 1/2 шклянкі малака, выцісніце і прапусціце разам з грыбамі праз мясарубку. Дадайце яйка, соль, перац, сталовую лыжку дробна нарэзанага кропу або зяленіва пятрушкі. Калі маса будзе вадкая, усыпце 2—3 сталовыя лыжкі тоўчаных сухароў. Зрабіце невялікія тоўстыя катлеткі, абсмажце іх з двух бакоў да залацістага колеру. Падайце з хрэнам, смажанай бульбай, капустай або з салатам са свежай гародніны.

НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

# ТАМ, ДЗЕ АЛІМПІЯДА



Фрагмент сталіцы Мексікі.

Увага спартыўнага свету звернута цяпер на Мексіку, дзе адбываюцца найбольшыя спартыўныя гульні — алімпіяда. Спартыўныя вынікі з яе прыносіць нам штодзённы друк. Мы звернем увагу чытачоў на не менш цікавыя весткі аб самой краіне.

Мексіка займае паверхню 1972 тыс. квадратных кіламетраў, значыць, яна ў звыш шэсць разоў большая, чым Польшча, але звыш паловы паверхні краіны — гэта няўгоддзі.

Ад 1930 да 1967 года насельніцтва Мексікі павялічылася з 30 да 44 мільёнаў.

Звыш паловы насельніцтва жыве ў гарадах, з якіх 24 лічыць больш чым 100 тыс. жыхароў.

Натуральны прырост складае ў Мексіцы 38,5 праміляў і з'яўляецца адным з найбольшых у свеце.

У сярэднім у Мексіцы прыпадае 21 асоба на квадратны кіламетр.

Склад насельніцтва: 60 працэнтаў — метысы, каля 30 працэнтаў — індзейцы, рэшту складаюць крэолы, негры і мулаты.

Галоўнай рэлігіяй — каталіцызм, але царква аддзелена ад дзяржавы.

Сталіца краіны — горад Мехіка — знаходзіцца амаль на 2300 м. над узроўнем мора і налічвае звыш 6 млн. жыхароў.

У Мексіцы ў залежнасці ад вышыні адрозніваюцца чатыры кліматычныя зоны: гарачая, умераная, халодная, і марозная.

Нацыянальны даход Мексікі ў 1967 г. склаў каля 400 долараў на аднаго жыхара.

Мексіка незвычайна багата мінераламі. Апрача нафты, найбольшым багаццем з'яўляюцца залежы серы, ртуці, цынку, волава, вісмуту, сурмы і кадмію, а таксама срэбра.

Мексіка займае другое месца ў Лацінскай Амерыцы (пасля Бразіліі) у галіне прадукцыі сталі і... паперы.

З 1966 года звыш паловы насельніцтва Мексікі карыстаецца электрычнай энергіяй.

Найбольшую вартасць у мексіканскім экспарце маюць перш за ўсё бавоўна, а далей кукуруза, кава, цукар і пшаніца.

Мексіка выпускае каля 70 мастацкіх фільмаў у год; лік кінагледачоў велізарны — 346 млн.

Індзейцы не з'яўляюцца карэннымі жыхарамі Амерыкі. Прыйшлі яны з Азіі праз Берынгаў праліў, праўдападобна, каля 25 тысяч год таму.

У Мексіцы выступае цяпер каля 30 жывых індзейскіх моў.

Калі іспанцы знішчылі сталіцу ацтэкаў, гэта быў тады адзін з найбольшых гарадоў свету і налічваў каля 300 тысяч жыхароў.

Заснаваны ў 1521 г. горад Мехіка быў першым горадам еўрапейскага тыпу ў Новым Свеце.

У выніку вайны з ЗША ў 1846—1848 гадах Мексіка страціла 40 працэнтаў даўнейшай тэрыторыі (1,3 млн. кв. км.). Гэта, між іншым, цяперашнія штаты Тэхас, Каліфорнія, Арызона, Нявада і Каларада. У 1853 г. ЗША вымусілі Мексіку прадаць далейшых 140 тыс. кв. км... за цану 10 млн. долараў.



Спартыўныя традыцыі Мексікі багатыя. Напрыклад, акрабаты старой Мексікі славіліся ў новым, а пасля і ў старым свеце.



Рэшткі славутай імперыі ацтэкаў.

ЧВЭРЦЬ СТАГОДДЗЯ НАЗАД

# ЗНАЁМІМСЯ З АБСТАВІНАМІ

Год 1943 быў тым годам, калі галоўнае камандванне Савецкай Арміі старанна выпрацоўвала план будучай вялікай наступальнай аперацыі на Беларусі пад крыптанімам «Багратыён». План гэты накіраваны быў на знішчэнне сіламі І-га, ІІ-га, ІІІ-га Беларускіх франтоў і І-га Прыбалтыйскага фронту наймацнейшай у той час нямецкай групы арміі «Сярэдзіна» і поўнага вызвалення Беларускай ССР.

У той час уся ўсходняя Беларусь ахоплена была полымем партызанскіх баёў. Народныя мсціўцы — так зваліся партызаны — безупынна праследвалі ворага на яго тылах, наносілі балючыя ўдары ў найбольш чулыя месцы, вязалі сур'ёзныя людскія сілы, якія немцы вымушаны былі трымаць да барацьбы з партызанскім рухам. Ляцелі ў паветра масты і вайсковы транспарт, нішчана сувязь, падпальвана нямецкія склады, разбівана пастарункі жандармерыі і паліцыі, бязлітасна ліквідавана здраднікаў. Уся зямля гарэла пад нагамі ворага. Не мог ён адчуць спакою ні днём, ні ноччу. Адусюль падпільноўвала смерць.

Надыйшла пара, каб гэтае полымя партызанскай барацьбы перакінуць далей на захад, каб яно ахапіла заходнюю Беларусь, а таксама і Беластоцкае ваяводства, аж да лініі Буг—Нараў.

З гэтай мэтай ужо ў верасні 1942 года пастановай Цэнтральнага Камітэта КП(б) Беларусі быў паклікаты Беластоцкі акруговы камітэт КП(б) Беларусі (абком) на чале з першым сакратаром Васілём Емяльянавічам Самуціным. Таварыш Самуцін невыпадкова быў назначаны І-шым сакратаром беластоцкага абкома — ён добра ведаў ваяводства і польскую мову. У пачатку 1934 года, пасля вялікіх г. зв. правалаў дзеячаў КПЗБ, якія мелі месца ў Беластоцкім ваяводстве, быў адклікаты сакратар Беластоцкага акруговага камітэта тав. «Захар». На яго месца і быў назначаны тав. Самуцін. Восенню 1935 года пад прозвішчам Мікалай Зянкевіч арыштавала яго дэфензіва. Акружны суд у Беластоку за камуністычную дзейнасць пакараў В. Самуціна дзесяццю гадамі турмы. 1936—37 гады адбыў тав. Самуцін у беластоцкай турме. У канцы 1937 года адсылаюць яго ў турму ў Равіч, дзе і прасядзеў да 1 верасня 1939 года, г. зн. да дня пачатку польска-нямецкай вайны. Выходзіць з турмы разам са шматлікімі польскімі дзеячамі камуністычнага руху і прабіраецца на Беласточчыну. Такі быў жыццёвы шлях І-га сакратара акруговага камітэта.

У склад членаў камітэта былі пакліканы таварышы Даніла Сукачоў, які адначасова быў упаўнаважаным ЦК КП(б) Беларусі і Беларускага партызанскага штаба, генерал Піліп Капуста — камандзір Беластоцкага партызанскага злучэння, Трафім Стрыжак — сакратар Беластоцкага акруговага камітэта камсамола і С. К. Майхровіч — галоўны рэдактар «Беластоцкай праўды».

На пачатку 1943 года Даніла Сукачоў з групай работнікаў партыйнага апарату быў накіраваны ў Беластоцкае ваяводства. У гэтай групе былі Кундовіч, Сурма, Аўсейчук, Казакоў, Бастун, Гардзіенка, Ісаенка, Стома і Шаламонаў. Кожны з іх быў назначаны ўпаўнаважаным партыі на адпаведны павет (раён): Бельскі, Гайнаўскі, Лапскі, Сакольскі і г.д. У гэтым жа часе, як я ўжо ўспамінаў, у Маскве навучаліся і падрыхтоўваліся да перакідкі групы спецыяльнага прызначэння: група «Дальнія» пад камандваннем капітана Мікалая Хмялеўцава, група «Стойкія» пад камандваннем капітана Канстанціна Груздзева, група «Заходнія» пад камандваннем Мікалая Чорнанебава, а таксама шэраг іншых груп, такіх, як групы Юдзіна, Саркісава, Арлова і Васюка. Групам гэтым быў вызначаны раён дзеяння. І так, група «Дальнія» мела дзейнічаць у раёнах Бельска, Чаромухі, Беластока і Лап. Групе «Стойкія» вызначаўся раён ад Ваўкавыска да Беластока, групе «Слава» — раён Гайнаўкі, групе «Чырвоныя» — раён Беласток — Граева, Беласток — Крынкі, групе «Заходнія» — раён Аўгустаў — Граева — Элк.

У склад груп спецыяльнага прызначэння ўваходзілі людзі розных нацыянальнасцей. Напрыклад, у групе «Слава» камандзірам быў беларус Яўстафій Уладзіміравіч Васюк, яго намеснікам былі рускія — Пётр Аляксеевіч Волас і Мікалай Рыгоравіч Іваноў. Мінёрамі былі палякі Ян Мазалеўскі і Браніслаў Пораанюк, а таксама ўкраінец Аляксандр Глухоўскі.

Летам 1943 года рашэннем Беларускага партызанскага штаба былі вылучаны са Слуцкай партызанскай зоны Мінскай вобласці партызанскія атрады, з якіх створана Беластоцкае партызанскае злучэнне. Камандзірам злучэння быў назначаны генерал-маёр Піліп Капуста, камісарам — І сакратар Беластоцкага акруговага камітэта КП(б) Беларусі Васіль Самуцін, начальнікам штаба — І. Ф. Сянкевіч.

1 верасня 1943 года Беластоцкае партызанскае злучэнне з беларускіх лясоў на поўдні ад Мінска рушыла ў далёкі рэйд на Беласточчыну. Не быў



© PDF: Kamunikat.org 2025
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2025

© PDF: Kamunikat.org 2025
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2025

# ТРЫБУНА чытачоў

### НАРЭШЦЕ І Ў САКОЛЦЫ

У Саколцы адчуваецца недахоп працы. Няма тут большых прадпрыемстваў. Людзі едуць да працы ў Беласток і ў Чорную Беластоцкую. Але ўжо недалёкі той час, што сотні людзей атрымае працу ў Саколцы. У наступным годзе распачнецца ў Саколцы будова прадпрыемства будаўлянай сталяркі. Знойдзе тут працу 800 чалавек. Кошт будовы акрэсліваецца сумай 150 мільёнаў зл. Пляц прадпрыемства будзе займаць 15 га. (мх)

### МАЛАЦЬБА

У Паўднёвым Востраве, што на Сакольшчыне, сельскагаспадарчы гурток мае толькі малацільны агрэгат. Механікам пры ім працуе Мікалай Жамойда. Ён намагаецца, каб малацілка была рацыянальна выкарыстана. Так, каб не траціць часу на перавоз «Дамфы» і матору, ён па чарзе ад гумна да гумна пераязджае і ўсім малоціць. Мог бы першым малаціць членам сельгасгуртка, але такім чынам страціў бы шмат гадзін на перавоз. (мх)

### ТАВАРЫСТВА ПРЫЯЦЕЛЯЎ БЕЛАВЕЖЫ

Белавежа прыцягвае да сябе людзей. Белавежскія зубры і тарпаны, Белавежскі прыродазнаўчы музей і Белавежскі парк заўсёды наведваюць турысты не толькі з найдалейшых куткоў нашай краіны, але і з-за граніцы. Тры гады таму назад арганізавалася Таварыства прыяцеляў Белавежы, якое разгортвае вялікую і шматгранную культурна-асветную дзейнасць. Датычыць яна перш за ўсё пашырэння ведаў аб Белавежы, аховы яе прыроды і прывіванне любві да непаўторнай і цудоўнай пушчы.

Таварыства арганізуе лекцыі і даклады на такія тэмы, як «Усё аб Белавежы», «Свет вакол нас» і «Выдатныя людзі і вучоныя». Іншай серыяй з'яўляюцца даклады аб В'етнаме, Мексіцы, Маскве.

Другім напрамкам дзейнасці з'яўляецца арганізацыя выставак. Вялікім зацікаўленнем турыстаў карысталіся выстаўкі: «Паўстагоддзя карт Польшчы», «Турыстычныя карты Белавежы» і выстаўка саматужнага ганчарства — сівакоў.

Цікавая таксава выдавецкая дзейнасць таварыства. Выдана нядаўна цікавая кніжка дацэнта Януша Фалінскага «Park Narodowy Białowieży» і карта пушчы.

Запланавана таксама выдаць кніжку пад загалоўкам «Pomniki walki i męczeństwa w Puszczy Białowieskiej». З ініцыятывы навуковых работнікаў Белавежскага інстытуту Польскай акадэміі навук, нядаўна вызначана геаметрычная сярэдзіна Белавежскай пушчы (уключна з часткаю, якая знаходзіцца ў БССР). Знаходзіцца яна на нашым баку. Будзе там устаноўлены сонечны гадзіннік. Таварыства налічвае пакуль што 70 членаў. Старшынёю яго з'яўляецца дацэнт Януш Фалінскі. (мх)

---

гэта рэйд найкарацейшай дарогай, але ішоў партызанскімі сцежкамі. Злучэнне ішло на паўднёвы ўсход, выбіраючы шлях найбольш цяжкі, праз багны. Затое была гэта найбольш бяспечная дарога.

У гэтым часе наша група «Дальнія» разам са «Стойкімі» каля тыдня гасцявалі ў штабе Брэсцкага партызанскага злучэння. Знаёміліся мы з умовамі партызанскага жыцця, збіралі неабходныя весткі ад партызан, якія найдалей прабіраліся на захад. Знаёміліся са структурай нямецкай ваеннай адміністрацыі на акупаваных землях, з размяшчэннем большых нямецкіх гарнізонаў, са спосабам аховы камунікацыйных шляхоў. Вывучаем таксама адносіны акупантаў да мясцовага насельніцтва. Даведваемся аб страшных фактах гітлераўскага тэрору.

Глядзім, як кружаць у паветры нямецкія самалёты, услухоўваемся ў выбухі. Гэта немцы кідаюць бомбы на спакойныя вёскі і хутары.

— Адкуль гэта погань прылятае? — пытаюся тутэйшага партызана. — Навошта кідаюць бомбы на спакойнае насельніцтва?

— Адкуль прылятаюць? — здзіўляецца партызан. — Не ведаеш? З Беластока. Там у іх аэрадром, на якім праходзяць баявую падрыхтоўку пілоты для ўсходняга фронту. А што кідаюць бомбы на вёскі? Дык жа ж забіванне ляжыць у іх звярынай натуры.

— Ну, пачакайце, гады! — падумаў я. — Хутка дабярэмся і да вашай скуры...

**Ян Анацік**

### ПЕЦЯ І АЛЯКСАНДР БУРА

Пеця Полацкі — чалавек нешчаслівы, бо недаразвіты. Не ўмее ён нават палічыць грошай. Але Пеця мае сілу і нескладаныя фізічныя работы можа выконваць. Працуе ён у Міхалоўскай цагельні. Кіраўніцтва цагельні, відавочна, пайшло на руку нешчасліваму чалавеку. Бо ж трэба, каб і такі чалавек зарабіў грошай на сваё ўтрыманне. І ён зарабляе больш 1000 зл. Але, на жаль, ён сваімі грашыма не карыстаецца. Нажываецца з яго працы Аляксандр Бура, які выцягвае ад яго амаль усе грошы і Пеця часта ходзіць галодны. Але калі Пеця галодны, Бура есць яму не дасць.

Абкрадае Бура Пецю зусім проста. Кожнага 8-га і 27-га ў цагельні выплата. Пеця прыходзіць да Буры і Бура тады просіць у яго грошай на чвэртку водкі. Пеця ў грошах не разбіраецца і дае яму столькі, колькі Бура бярэ. 27.VIII г.г. Пеця пакінуў у Буры ўсю сваю выплату, а 8 жніўня ўсю сваю залічку. І так гэта адбываецца заўсёды. У Пеці ёсць два браты, але ён іх не слухае, бо Бура яго так прыласкаў і апутаў, што гэты нешчаслівы чалавек толькі да яго заходзіць. У Буры ёсць дачка, якая насмейваецца з Пеці і нават кажа, што за яго выйдзе замуж. А Пецю гэта падабаецца і ён пазваляе абкрадаць сябе.

Здаецца мне, што Аляксандра Буру павінны прыклікаць да парадку нашыя органы, бо інакш Пеця прападзе.

**Захараў**
Міхалова

### РАМЯСТВО РАЗВІВАЕЦЦА

У апошніх гадах вельмі хутка развіваецца на Гайнаўшчыне рамяство. У канцы 1963 года ў павеце налічвалася 185 рамесных пунктаў, а ўжо ў канцы 1967 года колькасць іх акрэсліваецца лікам 300. Ужо няма цяжкасцей з падкоўваннем коней, шыццём адзежы і абутку, а таксама спецыялістамі да будовы дамоў, печаў. Усё часцей паяўляецца на вёсцы спецыяльнасць электрыка. (мх)




**Дарагое Сэрцайка!**

Адыходзячы ў армію, я пакінуў у сваёй вёсцы нарачоную. Я вельмі кахаю Марысю. Яна прыгожая, зграбная і вясёлая, мо толькі трохі залішне ганарыстая. Мы пішам пісьмы, а калі прыязджаю ў водпуск, сустракаемся. Пасля года часу я, будучы яшчэ ў войску, пазнаёміўся з Крысяй. Я сніў аб ёй начамі. Па нейкім часе Крыся прызналася мне, што мае мужа — п'яніцу і гадовую дачку. Яна сказала мне, што калі б я з ёю ажаніўся, дык пакінула б мужа, бо мяне толькі кахае. Я не знаю яе мужа. Незадоўга вярнуся з войска, трэба будзе жаніцца, бо на гаспадарцы няма каму працаваць. Але не ведаю з каторай з іх жаніцца, бо сапраўды кахаю абедзве.

Парай, Сэрцайка, што мне рабіць?

**«Валодзя»**

**Дарагі «Валодзя»!** Бачыш, сапраўды цяжка зразумець, як можна кахаць дзве дзяўчыны на раз. Аднак прыходзіцца часамі чытаць аб такім каханні ў кніжках, бо ў сапраўднасці гэта цяжка ўявіць. Мо гэта не каханне? На гэта цяжка мне адказаць. Адно толькі магу табе параіць, што лепш будзе, калі ты выбярэш Марысю. Крыся мае мужа і дзіця, і ты не маеш права разбіваць сям'ю, якая б яна ні была. Што іншага, калі б Крыся была ўжо разведзена. А ў такім выпадку ты не ведаеш добра Крысю, і не ведаеш яе мужа, не ведаеш адносінаў яе мужа да дзіцяці. А мо Крыся вінавата? Не забывай, што тут вырашаецца лёс дзіцяці. Адкрыта скажы аб гэтым Крысі і перастань з ёю сустракацца. Усімі думкамі вяртайся да Марысі. Так будзе найлепш вам усім.

**Жадаю ўсяго найлепшага**
**Сэрцайка**

### АБ КАЛЕКТЫВАХ СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧАЙ ПАДРЫХТОЎКІ

Давучванне і самаадукацыя дарослай моладзі ў вёсцы з'яўляецца неабходнасцю. Веды, атрыманыя ў пачатковай школе, трэба пашыраць. Гаспадар павінен ведаць аб рацыянальным кармленні жывёлы, аб мінеральных угнаеннях, аб хімічных сродках ліквідацыі пустазелля, аб сучаснай сельскагаспадарчай тэхніцы. Бо толькі той селянін будзе атрымоўваць высокія ўраджаі і добра развіваць жывёлагадоўлю, які належна ўзброены сельскагаспадарчымі ведамі.

Формай сельскагаспадарчай адукацыі з'яўляюцца, апрача школ сельскагаспадарчай падрыхтоўкі, калектывы сельскагаспадарчай падрыхтоўкі. Яны аб'ядноўваюць моладзь, якая закончыла пачатковую школу і застаецца працаваць на гаспадарках сваіх бацькоў, а таксама маладых гаспадароў, якія не маюць такой прафесіянальнай сельскагаспадарчай падрыхтоўкі.

Арганізаванне калектываў сельскагаспадарчай падрыхтоўкі на Гайнаўшчыне вядзецца ад 1958/59 навучальнага года. Маюць яны тры ступені і разлічаныя на трохгадовыя заняткі. Ужо ў Гайнаўскім павеце налічваецца трыста трыццаць пяць выпускнікоў калектываў сельскагаспадарчай падрыхтоўкі, якія атрымалі веды да належнага вядзення гаспадарак. Выпускнікі гэтых спецыяльных калектываў з'яўляюцца часта ініцыятарамі многіх пачынанняў у гаспадарскім і грамадскім жыцці сваіх вёсак. У мінулым навучальным годзе згодна з планам павінна было быць арганізаваных 23 калектывы сельскагаспадарчай падрыхтоўкі першай ступені. На жаль, план не быў выкананы. Было арганізаваных толькі 15 калектываў. Зараз у Гайнаўскім павеце налічваецца 15 калектываў (150 асоб) — першэй ступені, 18 калектываў — другой ступені (208 чалавек) і 21 калектыў (200 асоб) — трэцяй ступені.

**Віталіс Назарук**
Гайнаўка

### ЯН ГАЎРЫЛЮК

Аўтарытэт здабываюць у сваім асяроддзі прыкладнымі паводзінамі, добрай працай, ветлівасцю, беспасрэднасцю, справядлівасцю. Усе гэтыя якасці мае Ян Гаўрылюк з вёскі Плёскі. Варта яго залічыць да першых і перадавых гаспадароў вёскі. У яго заўсёды адпаведна ўгноеная зямля, для якой ён не шкадуе мінеральных угнаенняў. Кантрактуе ён многа жыта. Вялікія даходы мае з малака, якое прадае дзяржаве. Нядаўна Гаўрылюк пабудаваў новы дом, якім многія захапляюцца. На панадворку ў яго заўсёды парадак. Мае ён свой тэлевізар, пры якім праводзіць вольны час пасля працы. Гаўрылюк з'яўляецца таксама адным з лепшых членаў сельскагаспадарчага гуртка. Вось таму ён карыстаецца пашанай у сваёй вёсцы, ва ўладах грамады і павета.

**Янка**
Плёскі

### БУДАЎНІЦТВА

Разбудоўваюцца вёскі. Кожны год сяляне будуюць шмат дамоў і гаспадарчых будынкаў. У грамадзе Нурэц-Станцыя (у Сямяціцкім павеце) за тры апошнія гады выдана 193 дазволы на будову. У гэтым жа перыядзе 12 чалавек здабыло кваліфікацыі рамеснікаў. Сярод іх 3 муляры, 4 сталяры, 2 бетоншчыкі, 1 электрык і 2 камінары.

Да гэтага часу адчуваюцца яшчэ ў грамадзе цяжкасці з будаўнічымі матэрыяламі. Значна палепшыцца ў гэтым, калі сяляне з Барысаўшчыны закончаць падрыхтоўку да прадукцыі іх у палявой цагельні.

Міхась Вішанка
Мілейчыцы

### НЕПРЫЕМНАЕ СУСЕДСТВА

Гайнаўскі базар размяшчаецца пры вуліцы Вызвалення. Навокал жыллёвыя дамы. Жыхары гэтых дамоў наракаюць на тое, што базар засмечаны. Адтуль выдзяляюцца неаднойчы непрыемныя пахі. Няма каму чысціць базару. Будкі, у якіх кожную сераду раскладаюць свае тавары ўласнікі, брудныя і дзіравыя.

**Янка Цялушэцкі**
Новае Ляўкова



**Матарызацыя на Гайнаўшчыне развіваецца (стаянка матацыклаў ля рэстарана «Гайнавянка») Фота: Я.Ц.**

# КІНО

### БЕЛАСТОК

**БГКТ**

„Klucz do nieba” 20.

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

„Dzwonić Nortside 777” (USA), 22—23. „Filstaff” (hinduski), 24—25. „Żywot Mateusza” (polski), 27—28.

**Дубіны**

„Jak się masz Vero” (bułg.), „Pamiętnik pani Hanki” (polski), 27—28.

**Нараўка**

„Gra bez reguł” (czeski), „Lekarstwo na miłość” (polski), 23—27.

**Нарва**

„Mętna woda” (radz.), „Piąty jeździec Apokalipsy” (czeski), 23—27.

**Чыжы**

„Julia, Anna, Genowefa” (polski), „BS 38-15” (NRD), 23—27.

**Дубічы Царкоўныя**

„Męski piknik” (jugosł.), „Sami na wyspie” (polski), 23—27.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Na pomoc” (angl.), „Katastrofa” (polski), 23—27.

**Орля**

„Julia, Anna, Genowefa” (polski), „BS 38-15” (NRD), 23—27.

**Райск**

„Gdy miłość przemija” (jugosł.), „Stajnia na Salwatorze” (polski), 23—27.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

„Rękopis znaleziony w Saragossie” (polski), „Za naszą i waszą wolność” (polski), 22—25.

**Міхалова**

„Skarb bizantyjskiego kupca” (czeski), 22—23. „Strzelby Apaczów” (USA), 24—25. „Brzoza” (jugosł.), 26—27.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Zarezerwowane dla śmierci” (NRD), 22—23. „Ojciec żołnierza” (radz.), 24—25. „Tabliczka marzenia” (polski), 26—27.

**Шудзялава**

„Lekarstwo na miłość” (polski), „Noc bez końca” (bułg.), 23—27.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

„Faraon” (polski), „Spacer po linie” (angl.), 23—27.

**Новы Двор**

„Miejsce dla jednego” (polski), „Miłość surowo wzbroniona” (węgierski), 26—27.

**Ліпск**

„Sobótki” (polski), „Między linami ringu” (USA), 26—27.

**Ніва**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch” Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch” Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona” Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

B.Z.Graf. G-3 NAKŁAD 6297



© PDF: Kamunikat.org 2025
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2025

# ХАМУТ

Дзядзька Адам даўно лічыў сябе добрым гаспадаром. Часам яму здавалася, што ён гаспадар на цэлую Патоку. Убачыўшы, што на правым плечуку яго лысае кабылкі паявіўся значок, намуляны хамутом, зараз пачаў збірацца ў Міхалова да рымара. «Хамут — гэта неабходная рэч, і не пазволю, каб мая кабылка мучалася». Палажыў у воз трохі воўны горшага гатунку і цэлы салявік бутэлек. Вядома ж, трэба ўнукам цукерак купіць, а грошай, як заўсёды на гаспадарцы ў старога чалавека, не хапае. Падзівіўшыся на салявік з бутэлькамі, падумаў, а пасля сам да сябе ў голас сказаў: «Здаецца, даўно ўжо вазіў бутэлькі. Мінула не менш як тры нядзелі, а так мала ад той пары назбіралася. Хіба не будзе тут больш сарака. Прыдалося б яшчэ з сорак. Больш бутэлькаў, то больш грошай». Махнуў на кабылку бічыкам і паехаў. Заказаўшы хамут, сустрэўся з родным кумам з суседняе вёскі Каўпакі. Паставілі ўпрыгожыць жыццё і хуценька пабеглі па гарэлку.

Дамоў вярталіся, як папала. Дзядзька Налівайка, як заўсёды, падпяваючы да самых Каўпакоў. І толькі ногі цягнуліся па зямлі, што аж абцасы пагубіліся ў дарозе. Вярнуўшыся прыпомніў, што была гаворка аб хамуце і давай хамут накладаць на жонку. Добра, што нарваўся ў той момант сын і супакоіў старога дурня, а то хоць ты з хаты ўцякай.

Адамаві трошкі лепш пашанцавала. Ім унук заапекаваўся і вёз цераз Міхалова, як парсюка з бойні, плахтаю прыкрытага. За хамутом аднак на другі дзень паехаў у Беласток карэткаю хуткай дапамогі. У Беластоку зрабілі хамут, але на яго. Налажылі цераз правае плячо, гіпсам памазалі і сказалі, што цэлы месяц мусіць насіць.

Бачыце, даражэнькія, калі хтось мае дурную галаву, то на яго, як на каня, можна хамут налажыць, а найчасцей ён і сам у хамут лезе.

**Суседка Міхаліна**



Рацыяналізацыя

# НІЎКА



Без слоў.

### У ЦЯГНІКУ

Рэвізор. У вас білет на звычайны цягнік, а вы селі ў скоры.

Пасажыр. Падумаеш, бяды той! Скажыце машыністу, каб трошкі цішэй ехаў, ды і ўсё.

### УСЁ ЎМОЎНА

Аднойчы ўзышоў салдат на мост у раёне манеўраў. Другі салдат, які ахоўваў мост, крыкнуў яму:

— Куды ты йдзеш?! Гэты мост умоўна ўзарваны!

Першы салдат, не задумваючыся, адказаў:

— А я і не іду. Я ўмоўна плыву.

Ул. Корбан

## Леў—брахун

**(БАЙКА)**

**Адзін салідны леў,**
**Я не скажу, што ашалеў,**
**Ці страціў розум**
**небарака, —**
**Загаўкаў раптам як сабака.**
**Ён і раней сабе грымеў**
**На падначаленых сурова,**
**Але ж тады яго ўсякі разумеў**
**Са слова.**
**А зараз толькі й чуеш: гаў! —**
**ды — гаў!**
**Усіх, усіх пааббрахаў,**
**Зрабіўся немагчымым**
**канчаткова.**
**Ну так і чэша на чым свет.**
**Ніхто ў ягоны кабінет**
**Зайцы з работнікаў не можа.**
**Зраўняў ката з зямлёй, лісу**
**ўвагнаў у жар,**
**Заплакала вавёрка —**
**сакратар, —**
**Абразіў леў бядачку**
**непрыгожа.**
**А лось — бухгалтар дык раве:**
**«Крый божа**
**Ісці к начальніку такому на**
**даклад! —**
**Жыццю не будзеш рад.**
**Аблае нізашто, дый годзе».**
**Але, нарэшце, на агульным**
**сходзе**
**Як трэба дзейнасць львову**
**абсудзілі.**
**Рашылі так: «Ён брэша ў**
**кабінеце за сталом? —**
**Дык быць не можа львом,**
**Калі такую звычку мае».**

✲

**А можа гэткіх львоў і не бывае?**

### НА ГІМНАСТЫЦЫ

Настаўнік фізкультуры:

— Дзеці, ляжце на спіну, падыміце ногі, і круціце імі, як быццам вы едзеце на веласіпедзе... Добра, дзеці, добра... хутчэй, яшчэ хутчэй... Паўлік, а ты чаго лянуешся?

— А я еду з горкі...

### КСЁНДЗ І ДЗЯЎЧЫНА

У канцы споведзі ксёндз пытаецца ў дзяўчыны:

— Ці не помніш яшчэ якіх грахоў?

На гэта дзяўчына адказвае:

— Я паслізнулася.

— Ну, дык гэта нічога, — кажа ксёндз. — Трэба хадзіць асцярожна.

— Каб то ж нічога?! — адказвае дзяўчына. — Але ж што я буду рабіць з... дзіцяткам?

### НЕЗНАЁМАЯ ДАМА

Гейнэ аднойчы сказаў Морыцу Гартману, які меў вялікі поспех у вялікасвецкіх дам:

— А мяне сёння ўжо наведала адна дама, дарагі Гартман. Адзіная дама, незнаёмая вам...

— Хто ж гэта?

— Муза, дарагі мой, муза!

### ШЧЫРЫ АДКАЗ

— Татка! Пан Паўла просіць мае рукі. Што яму сказаць?

— Скажы яму, што ў тваю руку я нічога не ўлажу.

### «ЛЮБІМАЕ ВОЗЕРА».

Рыбаловы гаварылі пра возера:

— Якой толькі рыбы там няма: акуня няма, шчупака няма, плоткі няма, язя няма. Нават жаб і тых няма.

### ДАЛЁКІ СВАЯК

— Мне засталося ў спадчыну 1000 залатовак, але мушу аддаць брату 500.

— А дзе ж твой брат жыве?

— У Амерыцы.

— О, гэта далёкі сваяк, хопіць яму і 50 залатовак.



— І што ты ў ім знайшла, не разумею!

## WIŚLANE NOCE, WIŚLANE DNI

Słowa: WANDA CHOTOMSKA
Muzyka: TADEUSZ KIERSKI




Nad naszą Wisłą las skrzydlaty,
piosenkę śpiewa w krzakach ptak...

Weźmiemy barwę i śpiew najwyższy
od tych skrzydlatych, zielonych stron,
popłynie z nami na falach Wisły
zielonych lasów wysoki ton.

Nad naszą Wisłą wierzba siwa
pod swoim cieniem skryje nas...

Weźmiemy od niej ten cień srebrzysty,
co nam nie kazał już dalej iść,
popłynie z nami na falach Wisły.
wplątany jeden we włosy liść.

Nad naszą Wisłą dzień się kończy
i gwiazdy z nieba zrzuca noc..

Weźmiemy w drogę dni rozśpiewane
i te milczące, pachnące sny,
wiślane noce i dni wiślane
popłyną z nami tam, gdzie i my.

### ПА-СУСЕДСКУ

— У цябе, суседзе, свярдзёл ёсць?

— Няма, а нашто ён табе?

— Ды вось учора ў свірне нехта дзірку пракруціў і пудоў дзесятак жыта выцадзіў.

### АДЗІН ЗА ДВАІХ

Гаспадыня: Трынаццаць асоб за сталом! Дай жа, божа, каб усё было добра.

Госць: Не бойцеся, пані! Я буду есці за сябе і за чатырнаццатага.

### У СУДЗЕ

Суддзя: Чаму вы, грамадзянін, дзвюма бутэлькамі пусцілі ў свайго суседа?

Абвінавачаны: Бо першай не трапіў, пане суддзя.

# Курʼёзы

### Вучоныя не спяшаюцца

Мяркуючы па ўсяму, на Французскую Акадэмію навук ніяк не дзейнічаюць спешка і нервознасць, характэрныя нашай эпосе. Сорак бессмяротных, якія з 1935 года працуюць над складаннем французскай энцыклапедыі, дайшлі да трэцяй літары алфавіта — «С». Спецыялісты вылічылі, што калі складанне слоўніка працягнецца такімі ж тэмпамі, да літары «Зэт» акадэмікі дабяруцца ў 2125 годзе.

Яшчэ больш марудна працуюць гісторыкі, якія працуюць над законамі, выдадзенымі французскімі каралямі. Сваю працу гісторыкі пачалі ў часе панавання Людовіка XIV. Французская рэвалюцыя спыніла яе. У XIX стагоддзі яна зноў пачата і працягваецца да сённяшняга часу. Прафесар Віктар Габі нядаўна ў адным паведамленні для друку заявіў, што гісторыкі дайшлі ўжо да 1537 года і ёсць надзея закончыць усю працу ў 2159 годзе.

### Кемары



Так называецца гульня, якая існуе ў Японіі з шостага стагоддзя. Яе можна лічыць папярэднікам сучаснага футбола, хоць яна і служыць своеасаблівым рэлігійным абрадам. Удзельнікі ў гэтай гульні-абрадзе носяць старадаўнія традыцыйныя касцюмы.




**Выходзячы замуж за п'яніцу, яна мела надзею толькі на грамадскасць.**

© PDF: Kamunikat.org 2025
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2025